


# DISTRICTUS

# ПАВЕТ




ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№10 (23) КАСТРЫЧНІК 2003 г.




# 250-я ГАДАВІНА ТАМАША ВАЎЖЭЦКАГА











# ВЕСТКІ

Дзякуючы каардынаванай працы супрацоўнікаў Інстытута геалагічных навук НАН Беларусі, Браслаўскага музейнага аб'яднання і школьных краязнаўцаў на Браслаўшчыне выяўлена каля 50 адметных валуноў, частка якіх абвешчана помнікамі прыроды рэспубліканскага значэння. Сабраны значны гістарычны і этнаграфічны матэрыял, які мяркуецца абагуліць у спецыяльна падрыхтаванай брашуры

Краязнаўцы Канстанцінскай школы пад кіраўніцтвам Віктара Бунты здзейснілі экспедыцыю па выяўленню адметных валуноў у паўднёвай частцы Браслаўшчыны. Каля в.Дубраўка знойдзены валун цікавай чоўнападобнай формы



"Каменная Дубіца". Удалося запісаць шэраг легенд, звязаных з валуном. Камень з датай "1791" і некалькімі меткамі выяўлены каля в.Ждэгелі



Сярод школ раёна праводзілася рэспубліканская краязнаўчая экспедыцыя "Крыж на карце раёна". Мэтай яе правядзення стаў пошук незлічоных і нявызначаных пахаванняў ваенных часоў. Прычым гэта тычылася не толькі перыяду II сусветнай вайны, але і войнаў, што праходзілі раней. Звыш дзесяці школ прадставілі свае справаздачы. Яны ўтрымлівалі картасхемы, апісанні, дакументы, запісаныя сведчанні людзей, фотаздымкі.

Так, вучні Зарацкай школы прааналізавалі працэс утварэння найбуйнейшага ў краі брацкага пахавання ў вёсцы Зарачча. Вучні склалі спісы і вызначылі некалькі праблем.

Цікавейшы камень з выбітымі крыжом і літарамі выявілі вучні Карасінскай БШ на могілках расійскіх салдат І-й сусветнай вайны каля вёскі Марцінкавічы. Гэта было даволі вялікае пахаванне 1916 – 1917 гг. На камені пазначаны нумар пяхотнага палка, салдаты якога пахаваны – нумар 277.

Вучні Браслаўскай СШ № 3 прадставілі матэрыялы аб вызначэнні трох адзіночных пахаванняў, а дзеці з Казян знайшлі відавочцу пахавання чырвонаармейцаў, якія загінулі ў канцы чэрвеня 1941 г. на пераправе праз раку Дзісна побач з мястэчкам.

**Кастусь Шыдлоўскі**

*Юбілеі*

# ЛЁС НАДМАГІЛЛЯ Т.ВАЎЖЭЦКАГА

У бягучым годзе адзначаецца 250 гадовы юбілей аднаго з самых славутых нараджэнцаў Браслаўшчыны Тамаша Ваўжэцкага (1753-1816), грамадска-палітычнага дзеяча, аднаго з кіраўнікоў паўстання 1794 г. У верасні ў мястэчку Відзы з гэтай нагоды прайшлі ўрачыстасці, арганізаваныя раённым і Відзскім аддзяленнямі Саюза палякаў у Беларусі. Іх удзельнікамі былі прадстаўнікі грамадскасці, уладаў. Толькі вось з музея нікога не запрасілі і гэта выглядае нейкай недарэчнасцю. У тыя часы, калі надмагільны помнік быў занядбаны, музейныя супрацоўнікі дабіваліся яго аднаўлення і добраўпарадкавання. Матэрыял пра Т.Ваўжэцкага ўведзены ў экспазіцыю гістарычна-краязнаўчага музея. Быў падрыхтаваны шэраг публікацый, у тым ліку грунтоўны біяграфічны нарыс для кнігі "Памяць". У музейных зборах зберагаецца даволі багатая падборка матэрыялаў звязаных з Т.Ваўжэцкім. У сваёй ацэнцы гэтай постаці музей зыходзіць з таго, што Ваўжэцкі з'яўляўся дзеячом Рэчы Паспалітай, дзяржавы, спадчына якой належыць не толькі Польшчы, але і Беларусі, Літве, Украіне. Так Т.Ваўжэцкі – гістарычная постаць не чужая для народаў ужо самастойных краін.

У савецкія часы такі падыход адмаўляўся ўладамі. Увогуле, дзеячы далёкіх гістарычных эпох, за некаторым выняткам, былі не ў пашане. Гэта стала прычынай разбурэння надмагільнага помніка Т.Ваўжэцкага, памятную пліту якога папросту здалі ў металалом.



**Надмагілле Т.Ваўжэцкага. Фотаздымак 70-х гадоў**

Занядбаны помнік не пакідаў абыякавымі людзей, якім была дарага мінуўшчына краю. У прыватнасці, клапаціўся аб добраўпарадкаванні магілы вядомы відзскі краязнаўца, настаўнік Сяргей Львовіч Адамовіч. Адным з тых, хто ўздымаў праблему помніка перад уладамі быў мастак і паэт Пётр Касцюкевіч. П.Касцюкевіч нарадзіўся на Шаркоўшчынскай зямлі ў в.Шыці, на Браслаўшчыне партызаніў. Дарэчы, ён аўтар цыкла




**Варыянт памятнай пліты, падрыхтаваны П.Касцюкевічам**

малюнкаў на тэму партызанскага жыцця. Пасля вайны ён пасяліўся ў Петразаводску, сталіцы Карэліі, але часам бываў на Браслаўшчыне. У 1972 г. пасля наведвання Відзаў ён напісаў




**Варыянт, прапанаваны супрацоўнікамі музея**




**Пліта апошніх гадоў СССР**

верш прысвечаны забытай магіле. П.Касцюкевіч звярнуўся да абласнога ўпраўлення культуры з прапановай добраўпарадкаваць надмагілле і выканаў свой варыянт памятнай пліты. Чыноўнікі нават не адказалі на ліст франтавіка. Пазней, калі аднаўленнем надмагілля займаўся музей, быў прапанаваны іншы варыянт, аздоблены паўстанцкай сімволікай. Цікава, што ў адноўленым помніку, які рыхтавалі па замове польскай амбасады, ужыты гэты ж прыём. Але напрыканцы 80-х гадоў, калі за аднаўленне помніка выступаў музей, улады і слухаць не хацелі пра гэта.

У перыяд перабудовы візіт кіраўніка Польшчы В.Ярузельскага ў СССР паспрыяў добраўпарадкаванню многіх гістарычных помнікаў на тэрыторыі Беларусі, Украіны, Літвы. У велізарнай спешцы аднавілі надмагілле Т.Ваўжэцкага. Памятаю, было тэлефанаванне ў музей старшыні пасялковага савета, які запрошваў неабходныя звесткі. Так спяшаліся, што ў караценькім памятным надпісу зрабілі дзве памылкі. На шчасце брыдкая і казённая пліта праіснавала нядоўга. Цяпер памяць славутага нараджэнца Браслаўшчыны ўвекавечана годна.

## Пётр Касцюкевіч

### НА МОГИЛЕ ВАВЖЕЦКОГО

С кустов сирени падает роса –
Роняет осень на прощанье слёзы.
Забытую могилу без креста
Оплакивают старые березы.

Они блестят на солнце сединой,
В конце войны я их другими видел …
И вот, подхлёстнут отпускной волной,
Я нынче снова оказался в Видзах.

Могилы мне, конечно, не узнать;
Двор магазина с тишиной мертвецкой …
Но в грудке камней – той эпохи стать,
Тут похоронен генерал Вавжецкий.

Когда-то и его любил народ,
И знали все окрестные избушки.
Из Видз родных он уходил в поход,
И руку крепко жал ему Костюшко.

Повстанческие пёстрые полки
Шли в бой жестокий за свою свободу,
Но царские щетинились штыки
Перекрывая все пути к отходу.

Варшава пала. Пенилась волной
Кровавой позади уже Пилица
Так навсегда покончил он с войной;
Со всех сторон – одни чужие лица…

Вначале плен. Но горькую струю
Потом еще направила опала.
Когда он умер, то в родном краю
Похоронили скромно генерала.

В кустах сирени высохла роса –
Расстаяли под полдень тучи-грозы.
Забытую могилу без креста
Оплакивают старые березы.

*1972 г. Видзы-Петрозаводск*



**Надмагілле Т.Ваўжэцкага ў святочнай аздобе**

## *Знаёмцеся - новы аўтар*



*Валерый Каралёў нарадзіўся ў Менску. Стала жыве ў вёсцы Ваўкоўшчына Мёрскага раёна. Прыватны прадпрымальнік. Аўтар больш 70-ці публікацый на тэмы гісторыі, краязнаўства і грамадска-палітычных дачыненняў, шэрагу вершаў. Друкаваўся ў "Чырвонай змене", "Выбары", "Ніве" (Беласток), "Літаратуры і мастацтве", мёрскай раённай газеце "Сцяг працы" – "Мёрскія навіны", "Паўночна-заходнім краі". Чатыры матэрыялы змешчаны ў кнізе "Памяць" Мёрскага раёна. Перадаў шмат экспанатаў са сваіх збораў у Мёрскі гісторыка-этнаграфічны музей, музей СШ № 3 г.Мёры, Полацкі гісторыка-культурны запаведнік і Браслаўскі гістарычна-краязнаўчы музей. Карыстаецца псеўданімаў А.Залескі.*

# ПАДАННІ ВАЎКОЎШЧЫНЫ І ЯЕ ВАКОЛІЦ

Першы пісьмовы ўспамін аб гэтай вёсцы знаходзіцца ў метрычных кнігах Навапагосцкага касцёла і датуецца 1756 годам. Але размешчанае ў 1,5 км на захад гарадзішча жалезнага веку з унушальнымі землянымі ўмацаваннямі і складанай планіроўкай, знаходкі каменных сякер у Бартоўшчыне – 2,5 км на ўсход і ў Навалацы – 3,5 км на паўночны захад ад вёскі, існаванне старадаўніх маёнткаў у Навалацы і Біруках, аб якіх першыя пісьмовыя сведчанні датуюцца 1468 і 1567 гадамі, – сведчаць аб тым, што мясцовасць гэтая здавён і даволі шчыльна заселеная. А дзе чалавек – там і паданні, легенды. Некалькі з іх мне яшчэ ў дзяцінстве апавёў мой дзядуля Багдановіч Віталь, сын Аркадзя, а яму ў сваю чаргу іх перадаў бацька – Багдановіч Аркадзь, сын Мацвея, які нарадзіўся ў Воўкаўшчыне ў 1870 годзе.

На захад ад вёскі ў напрамку гарадзішча ёсць урочышча "Гай" з напластаваннем на гары камянёў пакуль што нявызначанага геалагічнага ці антрапагеннага характара, а перад "Гаем" – камень-следавік з выявамі босай чалавечай ступні і абцаса.

Наконт Гая ёсць паданне, што калісьці вельмі даўно тут стаяла царква, якая за грахі мясцовых сялян аднойчы падчас навальніцы была разбурана маланкай і правалілася ў бездань. Ад яе засталіся толькі тыя камяні. А вось сляды на следавіку (на камені) узніклі яшчэ тады, калі камяні былі мяккія. У той час праз гэтую мясцовасць уцякаў ад рымскіх жаўнераў Хрыстос, які і пакінуў след босай нагі, а след абцаса – рымскага жаўнера. Сама назва "Гай", што прыйшла ў славянскія мовы ў абрадава-лекарскай групе тэрмінаў хутчэй за ўсё з іранскай у спалучэнні з існуючым паданнем указвае на тое, што калісьці ў Гаі мог існаваць язычніцкі культавы цэнтр, які быў разбураны падчас хрысціянізацыі. Непадалёк былой вёскі Бяртоўшчына знаходзіцца валун вялікіх памераў, каля якога (а магчыма і на якім) запальвалі на Купалле вогнішча мясцовыя сяляне. Паданне гаворыць, што вельмі даўно на гэтым камені хрысціяне казнілі яўрэяў. Тут з цягам часу дахрысціянская вера была атаясамлена з таксама дахрысціянскім – іудаізмам, а само паданне нясе водгукі ці то крывавай сутычкі мясцовых язычнікаў з адэптамі хрысціянства падчас яго насаджэння, ці то пакарання смерцю хрысціянамі мясцовых волхваў, а магчыма і старадаўніх язычніцкіх ахвярапрынашэнняў, магчыма, чалавечых.

Сама Ваўкоўшчына выгадна размясцілася з паўднёвага боку Ваўкоўскай гары, надзейна абароненая ўнушальнымі памерамі (першапачатковая вышыня 21 м), ад пранізлівых паўночных вятроў. Здаўна менавіта на гэтай гары збіраліся вяскоўцы святкаваць у ноч на Івана Купалу. Наконт яе існуе таксама паданне. З паўночнага боку гары ёсць так званае "карыта" – яр. Было вядома, што ў тым карыце нехта некалі закапаў скарб золата. Аднойчы падлеткі падчас пасьцьбы коней у "начным" вырашылі адкапаць той скарб. Прынеслі рыдлёўкі і ўзяліся за справу. Вось ужо нечыя рыдлёўка рыпнула па нечым жалезным. Паказалася крышка акаванага жалезнага куфра. А калі збілі замок і праз шчыліну падымаемага верха ўбачылі зіхаценне золата, раптам пачулася прарэзлівае іржанне коней, што пасліся непадалёк. Прыбегшы да коней, падлеткі ўбачылі, што ўсе іх коні зарэзаны ваўкамі. Вярнуўшыся да куфра – не ўбачылі куфра. Ён – як скрозь зямлю праваліўся. Колькі хто пасля ў тым месцы не капаў – анічога не знаходзіў...

Склад і характар падання сведчыць аб яго старажытнасці, магчымым сакральным значэнні гары і ваўка (ваўкоў), – як патроніма і ахоўніка запаведнай мясціны ў асяроддзі мясцовых жыхароў. Усе гэтыя паданні па сваёй сутнасці сягаюць сівой мінуўшчыны, часоў панавання паганства і яго барацьбы з мацнеючым хрысціянствам.

А вось дзве легенды больш позняга часу. На захад ад вёскі, непадалёк былога маёнтка Бірукі ёсць урочышча "Агароднік". Лічылася, што гэта назва паўстала наступным чынам. Даўным даўно ў біруцкага пана працаваў агароднікам малады хлопец. Яму спадабалася адна гарная дзяўчына, якую і вырашыў узяць у жонкі. Але калі хлопец вырашыў прасіць панскага дазволу ажаніцца з ёй, пан яму адмовіў. З тугі хлопец пайшоў у той лясок і павесіўся, а ў памяць аб гэтым здарэнні і пачалі вяскоўцы называць лясок "Агароднік". Гэта легенда не магла паўстаць раней паловы XVI стагоддзя, калі ў нашай мясцовасці разгарнулася запрыгоньванне сялян. А найбольш верагодна, што яна паўстала недзе ў сярэдзіне XVII ст., таму што згодна традыцый Вялікага княства Літоўкага мясцовыя баяры і шляхта ў асноўным вырашалі матрымапіяльныя справы сваіх падданых станоўча і бесканфліктна. У той жа час, калі наша мясцовасць была пэўны час акупавана маскоўскім войскам падчас вайны пры Яне Казіміры, уладальнікам маёнтка і вёскі мог быць якісьці маскоўскі дваранін, які цалкам мог у маскоўскай традыцыі вымагаць з сялян, як сваіх халопаў, прасіць дазволу на шлюб і па свайму жаданню адмаўляць ім.

На паўночны ўсход ад Волкаўшчыны знаходзіцца лес, адна частка якога мае назву Каралеўшчына, а другая – Ксяндзоўшчына. Згодна павер'ю, у гэтым лесе "чорт водзіць", г.зн. вельмі лёгка заблукаць. А пачалося ўсё з таго, што, калі кароль з ксяндзом той лес дзялілі, то пасварыліся. А вядома – дзе сварка, там чорту – радасць. Вось з таго часу і пасяліўся ў тым лесе нячысцік, ды і блытае ў ім людзям шлях. Што цікава: аб тым, што не раз блукаў у тым лесе, апавядаў аўтару ўраджэнец суседняга Залесся Анатоль Мікалаевіч Лясовіч. А і сам аўтар, добра ведаючы навакольныя лясы, аднойчы падчас ціхага палявання на грыбы згубіў у ім арыентацыю і выйшаў з лесу ў супрацьлеглы бок. Прычым гэтае здарэнне адбылося адзіны раз у жыцці – і менавіта ў гэтым лесе.

## Валеры Каралёў

### ПАРТЫЗАНСКІ ДАКУМЕНТ

У прыватным архіве захоўваю вельмі красамоўны дакумент перыяду нямецка-фашысцкай акупацыі, які тычыцца разгортвання партызанскага руху на тэрыторыі Мёрскага і Браслаўскага раёнаў.

Поўны яго тэкст наступны:

Расписка,
выдана отрядом т."Широкова" гражданину Королю Степану Антоновичу в том, что он является агентом, а поэтому, как скот, а также из обуви и одежды прошу не брать. Комисар: Морозов 1942 29/IV

С.А.Кароль з'яўляўся жыхаром хутара Аўсянічка, на самай мяжы Мёрскага і Браслаўскага раёнаў, а Марозаў – хутчэй за ўсё – в.Фралоўшчына Новапагосцкага сельсавета. Сама расніска на сутнасці "ахоўная грамата", прызначаная партызанам з іншых атрадаў. Красамоўна сама просьба камісара не забіраць у агента яго атрада жывёлу, адзежу і абутак. Яна яскра-ва сведчыць, ад чаго пайболын цярпелі мясцовыя сяляне падчас начных візітаў "народных" мсціўцаў.

У кнізе "Памяць" Мёрскага раёна толькі ўспамінаецца спецбрыгада "Няўлоўныя", камандзірам якой спачатку быў М.С.Пруднікаў, а затым – А.Р.Марозаў, а таксама асобна дзейнічаючы атрад імя Молатава, уключаны ў верасні 1943 г. ў склад створанай брыгады "За Радзіму", камандзірам якой на першым часе быў П.М.Шырокаў. Усе гэтыя фарміраванні дзейнічалі на тэрыторыі Мёрскага, Браслаўскага і іншых раёнаў. Устанаўленне сувязі паміж вышэй успомненымі партызанскімі кіраўнікамі і асобамі, успомненымі ў расніцы, патрабуе далейшых даследванняў і почыркаведчай экспертызы.

У час акупацыі ў мясцовасці, дзе была знойдзена расніска, партызанамі быў здзейснены шэраг дыверсійных актаў. У прыватнасці, партызаны спалілі млын з двума газагенератарнымі рухавікамі і будынак, у якім да першай сусветнай вайны мясцілася бальніца, а ў міжваенны час – школа ў Новым Пагосце. Спалілі жылы дом і гаспадарчыя пабудовы ў маёнтку Навалака. Разгрэмілі будынак школы і забаранілі праводзіць заняткі з дзецьмі настаўніцам у вёсцы Ваўкоўшчына. Пакуль што дакладна невядома, на баявым рахунку якога атрада гэтыя акцыі.

Пашырыць і ўдакладніць звесткі аб дзейнасці партызан маглі б успаміны жыхароў тых вёсак і хутароў, дзе яны спыняліся на пастой, праз якія праходзілі падчас рэйдаў, у якіх запасаліся правіянтам, вопраткай, абуткам, коньмі і шматлікімі іншымі рэчамі.

Пакуль жывыя сведкі тых падзей, варта было б дапоўніць гэту старонку нашай гісторыі.

Старадаўняй
Літоўскай Пагоні
не разбіць,
не спыніць,
не стрымаць!!!
Максім Багдановіч



## Валеры Каралёў

### Дзве Беларусі

Хтосьці гаворыць, ёсць дзве Беларусі:
Бел-чырвона-белая і зялёна-бурая.
Але ў нас хлеб-соль кладуць на адным абрусе
І ўвесну буслоў чакаюць не з "юга", а з выраю.

У радасці і смутку сваёй мовай гаворым
І спрадвеку на сваёй зямлі мы жывём.
Калі вораг нас гоніць нават і за мора,
Жменьку роднай зямелькі ў выгнанне бяром.

Праўда, што сёння загараецца мала
У Купальскую ноч святочных агнёў.
Але будзе прыбываць з кожным Купалам
Тых, хто не цураецца сваіх каранёў.

Сёння неба над Радзімай – чорныя хмары
І камусьці – імгла ля зрэнак варот.
Хай імглу развеюць аб будучым мары
І надзея – будзе да вясны зварот.

Цяжкасці, сумненні падуць поту кроплямі
І растопяць лёд – зацурчыць вада.
А спытае хто: "Што беларусы зрабілі?"
"Былі Беларусі дзве, – адкажам, – а цяпер адна."

### Замова на добрую дарогу *(з прадаўняга)*

У чыстым небе вечарам
Спаць сонейка паклалася,
У празрыстых росах
Ночанькай купалася.
А сёння на золаку
Зара ўзнялася,
На парозе з сонейкам
Сустрэлася-спаткалася.
Залатыя ключыкі
У ручкі свае брала,
Дубовыя дзверкі
Сябру адмыкала.
У шатры шаўковым
Выйсце адхінала,
Мілага ў неба
Ранкам выпускала.
Сонейку ў ручкі
Ключыкі лажыла,
Добрую дарогу
Табе варажыла.

************************************************************************************

*Краязнаўства і Internet*

# ЯЎРЭЙСКІЯ ПАДАННІ ДРУІ

Пад час працы ў выяўленні цікавых матэрыялаў, звязаных з краязнаўчай тэматыкай у Internet, удалося знайсці электронную публікацыю падарожных нататкаў журналіста пенрыядычнага выдання "Берега" Навума Праўдзівага. Ён, як зразумела з артыкула, пабываў у Друі з мэтай пошукаў "яўрэйскага гістарычнага пласта", ці таго, што ад яго засталося. Прапануем увазе чытача гэты матэрыял з некаторымі праўкамі і заўвагамі рэдакцыі.

Добираться до Друи пришлось целых пять часов. Сначала видавший виды «Икарус» довез меня до Браслава. На улице холодно и сыро. Зима нынче в Беларуси какая-то странная – то снега навалит по самые окна, то солнце так засияет, что вмиг снега как не бывало. На автовокзале немноголюдно.

- А вот летом здесь яблоку негде упасть, - убеждает меня уже немолодая женщина в старом демисезонном пальто. Оказалось, нам с ней по пути. Живет она в трех километрах от Друи и работает на местной ферме. Впрочем, что жизнь у этой женщины нелегкая, можно было догадаться, посмотрев на ее загрубевшие мозолистые руки. Мы разговорились. Степанида Казимировна, оказывается, до войны жила в Друе.

- Да, все другое было, - говорит эта женщина, прижимая к себе сумку, из которой торчат несколько буханок белого хлеба и какие-то несимпатичные банки с консервами. - Помню, что зимы были очень суровые, а по весне что ни год, все

заталливалось водой. Бывало, в лавку на лодке отправлялись по главной улице.

- Ну, а евреев тамошних Вы помните? - спрашиваю я в надежде начать свои путевые записи.

- Конечно, сынок, как же не помнить. Моя мама, царство ей небесное, работала у одного еврея-бакалейщика в семье. Так я знала всегда, когда у этого народа праздники. Бывало, то булки с маком в пятницу дадут бесплатно, - она покосилась на свои авоськи, - то бидон с молоком подарят, а то и леденцы для меня передадут. Добрые люди, - вздыхает Степанида Казимировна.

В это время к вокзалу подъезжает автобус местного значения Браслав - Друя, и мы с моей новой знакомой отправляемся в тридцатикилометровый путь. Автобус едет не спеша, старательно объезжая ямы. По пути подсаживается довольно много народу. Все громко разговаривают, пытаясь перекричать двигатель автобуса. Мы едем меньше часа, и за это время я узнаю от своих попутчиков, которые с удовольствием делятся своими знаниями о Друе, столько историй и легенд, что с трудом запоминаю все сказанное. А вот и конечный пункт моего путешествия. Мы подъехали к мосту через речку Друйку. Впереди как на ладони провинциальный городишко, угрюмый, но весьма опрятный. Чувствовалось, что народ здесь следит за своим хозяйством строго. В Друе нет своей автостанции, и автобус просто развернулся на так называемой центральной площади, опоясанной старыми домами довоенной постройки.

Первым, кого я увидел, выйдя из автобуса, был крепкий мужчина лет 60, сидящий на повозке. Оказалось, что он подрабатывает, курсируя между Друей и близлежащими хуторами. Поразмыслив, я решил нанять его, чтобы без толку не ходить по слякотным улицам еврейского местечка. Мой провожатый, Тадеуш Янович, за 5 тысяч в день согласился показать мне все основные еврейские достопримечательности. Для начала отправляемся за город – туда, где, по словам моего гида, расположено огромное старинное еврейское кладбище. Мы проехали весь город, и перед нами открылся поистине фантастический вид. На огромном холме, прямо у дороги возвышались надгробные камни. Я оставил своего гида наедине с лошадью и отправился в путешествие по кладбищу. Тут и там виднелись шикарные постаменты с еврейским текстом. Всего около двухсот. Было видно, что за кладбищем ухаживают. По всему периметру шел основательный забор, начинающийся с красивых



**Яўрэйскія могілкі ў Друі**

железных ворот. Самое поразительное, я не нашел ни одного надгробия, которое бы лежало брошенным на земле. Ходить по таким местам грустно. Здесь ты понимаешь, что еврейская жизнь в городе Друя умерла навсегда. А еще столетие назад все было по-другому.

В начале XIX века в Друе была возведена огромная каменная синагога. Говорили, что в округе другой такой нет. Как ни странно, но деньги на ее постройку дал человек, так сказать, из "высшего общества", благосклонно относившийся к еврейскому народу. Его имя – князь Сапега. По рассказам местных жителей, он жил в этих краях давным-давно. У него была жена Ядвига. Четверых детей родила она своему мужу, и все они умерли. Между тем князь Сапега был весьма одаренным человеком, стремящимся познать все новое, что окружало его. И вот решил он изучить письмо и язык еврейского народа. Князь пригласил к себе в Новогрудский замок местного ребе и занимался с ним изучением науки с утра до позднего вечера. Однажды раввин заметил, что пан Сапега очень мрачен, а узнав причину его печали, сказал: "На краю твоих владений есть маленький городок Друя. Большинство тамошних жителей – евреи, и почти все они – ученики моего учителя, рава Михаля, человека святого от Б-га. Ни одна его речь не бывает пустой. Иди к нему, и его благословение отведет от тебя беду". Так и сделал Сапега. Спозаранку он запряг лошадь и поехал в Друю. Когда он прибыл в это местечко, то первым делом отправился в старую деревянную синагогу, где реб Михаль учил Тору. Увидел его Сапега, склонил голову и попросил: "Пан Ребе, благослови меня, пожалуйста..." Немедленно положил реб Михаль руки на его голову и сказал: "Б-г займется твоей проблемой и возрадует отца потомком и позаботится о матери его". Ровно через один лунный год родила Ядвига сына, здорового и веселого. Князь Сапега вернулся к раввину Михалю и преподнес в дар 15-литровый сосуд, доверху наполненный золотыми монетами. Ребе взял лишь один золотой и сказал: "Все, что произошло, воля Вс-вышнего. В Торе сказано: "Серебро и золото жертвуй добровольно".

В тот же день приказал князь Сапега построить в Друе еврейский храм, которому не было бы равных во всей округе. Он пригласил из местечка Камей, что в Литве, раввина Шмая Га-Когена, который славился способностью изготавливать великолепные по красоте Арон-hа-Кодеш для хранения Свитков Торы. Синагогу строили два с половиной года. Столько же рав Шмая трудился над изготовлением восхитительного Арон-hа-Кодеш. В 1805 году весь проект был закончен. Открывая синагогу, князь Сапега устроил в Друе огромный пир для всех ее жителей. Вельможа навечно освободил еврейскую общину от всяких податей. В ответ рав Михаль подарил ему серебряную и золотую чаши.

Спустя пять лет рав Михаль умер. Когда это известие дошло до Ядвиги, жены Сапеги, она носила траур целый месяц. Каждый год в день его смерти княгиня посылала по одной золотой монете во все кассы сбора пожертвований в друйской синагоге.

Эту историю мне рассказали в сельском вечно гудящем автобусе. Как оказалось позднее, все эти факты реальны. (*Даволі багаты досвед краязнаўчай збіральніцкай дзейнасці сведчыць што такія звесткі пра будаўніцтва сінагогі ў Друі аўтар пачуць не мог. Верагодней за ўсё тут ужыты звесткі з розных крыніц, прычым часам недакладныя. Даследчыкі адносяць узвядзенне сінагогі да другой паловы XVIII ст., калі горад быў у складзе Рэчы Паспалітай. Верагодней за ўсё, фундатарам храма быў тагачасны ўладальнік Друі Аляксандр Сапега (1730-1793). Арон-кадэш, ці алтарная шафа выкананы майстрам Тыле сынам Абрахама з мястэчка Камаі, што на Пастаўшчыне* - ***Рэд.***) В историческом архиве Литвы сохранилась коллекция с большим количеством фотографий друйской синагоги, выполненной в 1928 году местным историковедом Я. Булгаком. (*У дзяржаўным гістарычным архіве Літвы сапраўды зберагаецца калекцыя фотаздымкаў сінагогі (44 здымкі), зробленых Янам Булгакам (Ф.1135, воп.21, спр.348). Аднак, Я.Булгак не «местный историковед», а выдатны этнограф, фальклярыст, магістр мастацкай фатаграфіі. У Друі ён працаваў у складзе віленскай экспедыцыі. У тым жа архіве зберагаюцца фотаздымкі сінагогі, выкананыя ў 20-я гады архітэктарам Ю.Клосам (Ф.1135, воп.3, спр.435)* - ***Рэд.***) На некоторых из них Арон-hа-Кодеш можно рассмотреть достаточно хорошо. Его красота поражает воображение обывателя. Кстати, в 1901 году организаторы престижной выставки в Париже обращались к друйскому раввинату с просьбой о показе Арон-hа-Кодеш во Франции. Раввинат, конечно же, отказал.

А еще известно, что во время самого большого наводнения, которое случилось в Друе в 1931 году, уровень воды в Друйке поднялся так высоко, что затопил даже первый этаж синагоги, стоящей на возвышенности. Пострадали Свитки Торы, и восстановить их не удалось. Тогда было решено предать их земле на еврейском кладбище, а местная община в том же году приобрела в Вильно три новых Свитка Торы.

К сожалению, практически ничего не осталось от великолепной синагоги - только фрагменты фундамента. Во время войны немцы подожгли ее. Все сгорело, крыша обвалилась. В 50-е годы здание потихоньку растаскивали по кирпичам. Кому печку в доме сложить, кому ступеньки. Так и уничтожили. А в 1967 году в Москве вышел очередной том "Всеобщей истории архитектуры", где синагоге Друи присваивался статус памятника государственного значения. Только все напрасно – ничего уже не осталось.

Кстати, совсем рядом с бывшей синагогой стоит памятник уничтоженным евреям. 15 июня 1942 года еврейская община Друи перестала существовать. Около 2000 человек в одночасье ушли в мир иной. Местные жители рассказывают, что, прежде чем уничто-

**(заканчэнне на 8 с.)**

*Экспазіцыя музея была ўрачыста адкрыта 23 кастрычніка 1988 г. 15 гадоў — тэрмін для экспазіцыі паважны, аднак паводле шматлікіх водгукаў яна не страціла сваёй прыцягальнасці, бо была зроблена грунтоўна, глыбока, даволі поўна раскрывае гісторыю рэгіёна. Аднак экспазіцыя — гэта толькі фрагмент рознабаковай музейнай дзейнасці. За 15 гадоў праведзена больш за 200 часовых выстаў, на базе музея створана музейнае аб'яднанне, дзейнічае краязнаўчае таварыства, падрыхтавана 6 навукова-краязнаўчых канферэнцый "Браслаўскія чытанні", выпушчана больш 30 асобных выданняў, апублікавана звыш 300 публікацый, арганізаваны і праведзены дзесяткі разнастайных экспедыцый, а ў фондах размясціліся багатыя калекцыі агульнай колькасцю каля 19 тысяч прадметаў.*

*Што да асноўнай экспазіцыі, то яна па ранейшаму прываблівае наведвальнікаў. За год музей аглядае 5-6 тыс.чалавек, праводзіцца блізу 200 экскурсій і музейна-педагагічных заняткаў. Усяго за час існавання экспазіцыі музей наведала больш 100 тыс.чалавек, праведзена больш за 4 тысячы экскурсій.*

*Музей захоўвае чатыры кнігі водгукаў у якіх сотні запісаў з уражаннямі аб экспазіцыі. Прапануем азнаёміцца з некаторымі водгукамі, пакінутымі найбольш вядомымі наведвальнікамі.*

# ЭКСПАЗІЦЫІ ГІСТАРЫЧНА-КРАЯЗНАЎЧАГА МУЗЕЯ 15 ГАДОЎ

Самыя цёплыя віншаванні Браслаўцам з адкрыццём невялікага, але ўтульнага і змястоўнага музея. Хочацца верыць, што ў самы бліжэйшы час гэты цудоўны пачатак будзе падоўжаны і памножаны ... У добры шлях Вялікі пачатак!

Георгі Паплаўскі, мастак.
23.10.1988 г.

З вялікім святам Вас шаноўныя працаўнікі музея, усе прыхільнікі і аматары вялікай гістарычнай спадчыны Браслаўшчыны. З першым днём працы ў кошт перабудовы, у кошт будучыні.

Андрэй Майсяёнак,
навуковец, краязнаўца, грамадскі дзеяч.
23.10.1988 г.

Alma Braslavia! Vivat!

Міхась Ткачоў,
гісторык, грамадскі дзеяч.
28.01.1989 г.



Фрагмент экспазіцыі музейна-гасцінічнага комплекса «Заезны двор»



**Фрагмент юбілейнай выставы. Рэкламныя плакаты.**

Я ў захапленні! Выказваю здзіўленне з працы тых, хто ў такі сціслы тэрмін так многа зрабіў для захавання гістарычнай спадчыны, гэтай зямлі і людзей, яе паказу. Шчырыя зычанні далейшага развіцця, шмат каштоўных экспанатаў. А тое, што ўжо ёсць павінны пабачыць усе.

Яніна Гелерт, унучка
лекара Станіслава Нарбута.
25.01.1989 г.

Музей робіць першыя крокі і яны ўжо выдатныя. Спадзяюся на сумесную супрацу ... У добры шлях дарагія сябры. Плёну на ніве аднаўлення нашай роднай гісторыі і культуры.

Людміла Дучыц, Вадзім Шадыра, Эдвард Зайкоўскі, археолагі.
Студзень 1989 г.

Экспазіцыя здзівіла, прыемна ўразіла сваім багаццем і глыбінёй. Дзякуй усім, хто ўклаў душу ў яе стварэнне. Калі б іх было як мага болей на Беларусі – гэтых культурных куточкаў.

Ірына Жарнасек, пісьменніца, Навум Гальпяровіч, паэт.
15.03.1989 г.

Цудоўная экспазіцыя! Дзякуй вам велізарны.

Людміла Касаткіна, актрыса тэатра і кіно.
1.03.1991 г.

З вялікай зацікаўленнасцю аглядаў музейныя зборы, якія адлюстроўваюць гісторыю Браслаўшчыны, дзе я ў 1935-37 гадах праводзіў геамарфалагічныя і гідраграфічныя даследванні.

Ежы Кандрацкі, польскі географ.
26.05.1991 г.

Нам вельмі спадабаўся краязнаўчы музей Браслаўшчыны, дзе мы змаглі спазнаць гісторыю, мастацтва, рамёствы гэтага рэгіёна ...

Мэцью Кахане, дыпламат,
прадстаўнік ААН у Беларусі.
9.03.1994 г.

Віншую краязнаўчы музей у Браславе з цікавай экспазіцыяй. Удзячна за кампетэнтнае яе прадстаўленне.

Эльжбета Смулэк, прафесар,
дыпламат, першы амбасадар
Польшчы ў Беларусі.

Найпрыгажэйшая зямля на сьвеце, Браслаўшчына! Хай Божая ласка і наша любоў бароняць яе й сьцеражэ! Маё шанаваньне супрацоўнікам музею і найлепшыя зычэньні.

Зянон Пазьняк, мастацтвазнаўца, палітычны дзеяч.
2.10.1994 г.

З сардэчнай удзячнасцю за ўратаваныя для нашчадкаў зборы па гісторыі і культуры Браслаўшчыны і цудоўнае іх прадстаўленне.

Ежы Пянёнжак, Ян Хайноўскі,
сенатары Рэспублікі Польшча.
22.11.2000 г.

Багаты мацярык нашай Бацькаўшчыны! І Браслаў годна рэпрэзентуе скарбы айчыннай духоўнасці.

Сяргей Панізнік, паэт.
11.07.2003 г.

Гэты музей уздымае душу і дух беларуса і хай Бог спрыяе ягоным супрацоўнікам і іхняй высакароднай працы.

Вольга Іпатава, пісьменніца.
11.07.2003 г.

жить евреев, их трижды нещадно грабили. Один раз взяли 100 заложников и потребовали 5 возов сахара, мыла и соли. Затем арестовали 40 молодых евреек и затребовали 100 кг золотых и серебряных украшений, а в третий раз заложниками стали 12 раввинов с семьями – их выкуп составил 12 возов с одеждой и обувью. Поняв, что больше брать нечего, немцы и их пособники расстреляли всех. Спастись удалось всего 30 евреям.

В это трудно поверить, но в 1946 году в этом местечке еще был миньян. 10 еврейских мужчин молились вместе. В местном школьном музее мне даже показали их фотографию. Правда, никто из них так и не остался здесь жить. Тяжкие воспоминания об утрате близких не давали спокойно спать по ночам. В 1958 году последний еврей покинул эти места.

Я ехал на телеге по узким улочкам Друи, смотрел на проходящий мимо народ и думал, что все эти люди, наверное, и не подозревают о том, что окружены легендами и историей еврейского народа. Старая улица, названная после войны в честь 1-го Мая, год назад стала носить имя еврейского писателя Алтера Друянова, местная школа привела в порядок еврейское кладбище, люди, живущие недалеко от памятника расстрелянным евреям, каждый год сажают здесь цветы, а в местном музее есть большая экспозиция, посвященная истории еврейской общины Друи. Так и живут рядом память и будни, только у памяти нет живого наследия

*******************************************************************************************

*2 кастрычніка на старонках газеты "Голас Радзімы" быў надрукаваны матэрыял, прысвечаны памяці энцыклапедыста Якуба Якубоўскага. Мы прапануем увазе чытача нашага выдання гэты невялікі, але напісаны з вялікай цеплынёй матэрыял, у якім праўда не адзначана, што Я.Якубоўскі – нараджэнец Браслаўшчыны. Ён настаўнічаў у Тракішскай сямігадовай школе (у 50-х гадах), пазней працаваў у Відзскай школе. На жаль, музей не меў сталых кантактаў з Я.Якубоўскім, але валодае біяграфічнымі звесткамі аб ім. Тут зберагаецца толькі адзін ліст энцыклапедыста да супрацоўнікаў музея, які пачынаецца такімі вось каларытнымі словамі: "Стары татарын, ураджэнец Браслаўшчыны Якуб Якубоўскі вітае Вас!"*

## ВЯЛІКІ ЭНЦЫКЛАПЕДЫСТ І ЦУДОЎНЫ ЧАЛАВЕК

*5 гадоў таму (14 верасня 1998 г.)*
*не стала Якава (Якуба) Якубоўскага*

Смерць яго для ўсіх была незразумелай, нечаканай, бо ён знаходзіўся ў росквіце творчых сіл. Пад яго рэдакцыяй выходзіў часопіс "Байрам. Татары на зямлі Беларусі", розныя газеты, кнігі.

Якуб Адамавіч быў багата адораны маці-прыродай вялікай сілай і магутнай энергіяй, незвычайнай працавітасцю. А найбольш у гісторыю і культуру Беларусі ўвайшоў як энцыклапедыст. Разам са сваім кіраўніком, акадэмікам і народным паэтам Беларусі Петрусём Броўкам Якуб Адамавіч стаяў ля вытокаў нацыянальнага энцыклапедызму, яго развіцця і росквіту, за што ў 1976 г. разам з іншымі супрацоўнікамі атрымаў высокае і заслужанае званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР.

Немагчыма пералічыць усе энцыклапедычныя выданні, у якіх ён прымаў удзел, але адно, дзе зіхатліва адлюстраваўся яго несумненны талент, мы назавём – гэта папулярная энцыклапедыя "Прырода Беларусі", якая была ўганаравана сярэбраным медалём ЮНЕП – праграмы ААН па навакольным асяроддзі.

Якуб Якубоўскі да канца свайго жыцця вучыўся, меў пяць дыпломаў аб адукацыі і шчодра аддаваў свае веды, ідэі, думкі вучням, прыхільнікам і паслядоўнікам. Ён меў многа сяброў і быў завадатарам шматлікіх культурных акцый.

Разам з тым, сын нашай Беларусі быў не толькі яе адраджэнцам, але і такім жа энтузіястам аднаўлення і ўздыму сваіх супляменнікаў, стаяў ля вытокаў сённяшняга Беларускага грамадскага аб'яднання татар "Зікр уль-Кітаб".

Пяць гадоў прайшло, як не стала Якуба Адамавіча, які пахаваны на Смілавіцкім мізары, але яго энергетыка такая, што і сёння добратворна працуе на нашу Беларусь.

*Ібрагім Канапацкі, кандыдат гістарычных навук*
*Міхась Маліноўскі, правадзейны член геаграфічнага таварыства*

## *Выдавецкія навіны*

Беларускае гістарычнае таварыства ў Беластоку выпусціла кнігу Міколы Шкялёнка "Беларусь і суседзі. Гістарычныя нарысы (на здымку)".




Мікола Шкялёнак – беларускі юрыст, гісторык, публіцыст, культурны і палітычны дзеяч. Нарадзіўся ў 1899 г. у в.Пяколіна (сучасны Мёрскі раён). У 1932 г. скончыў юрыдычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. Быў сябрам Беларускага студэнцкага саюза і Беларускага навуковага таварыства ў Вільні. З'яўляўся адным з заснавальнікаў Беларускага нацыянальнага фронта, Беларускага камітэта самадапамогі ў Нямеччыне, уваходзіў у кіраўніцтва Беларускай цэнтральнай рады. Рэдагаваў выданні "Студэнцкая думка", "Раніца", "Беларуская газета". У 1945 г. арыштаваны органамі НКУС і ў 1946 г. расстраляны.

Кнігу склалі артыкулы з розных выданняў.

Звязацца з БГТ у Беластоку наконт кнігі можна па E-mail: bzh@wp.pl

Пра выданні БГТ глядзі старонкі ў Internet:
http://www.bialorus.pl
http://kamunikat.iig.pl/bzh.htm

Два асобнікі кнігі М.Шкялёнка перадаў для Браслаўскага музея Павал Саўчанка, беларускі дзеяч з Вільні. Ён жа паведамляе, што ў Вільні Таварыства беларускай культуры выдала кнігу пра Мар'яна Пецюкевіча, віднага беларускага дзеяча, этнографа, нараджэнца Браслаўшчыны.

« ПАВЕТ » DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў.
Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Пацыялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)